Przesylka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 8 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня, 30-га верасьня 1933 | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле умовы. | Прыймо інтарэсантаў ў рэдакцыі штодзень ад 9-й да 4-й гадзіны. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр. у 3 » —70 » | у ½ года—1.30 у 1 год —2.50

## З кім лучыцца?

У 5-м нумары мы пісалі, аб сапраўдным твары „дабрадзеяў“, якія ўсё часьцей і часьцей займаюцца ўкраінскай і беларускай справай. Адказваючы, што беларускія масы ніколі такіх апякуноў ня шукалі і цяпер ня шукаюць, як-бы гэтага не хацелі пан Луцкевіч разам з кс. Станкевічам—мы адначасова высьвятляем пытаньне, якое можа паўстаць у шырокіх нізох нашага народу.

— Ну, добра, апякуноў мы ведаем, яны нам не патрэбны, але ці вызваленчы рух беларускага народу можа быць зусім самастойным, незалежным ад іншых формаў грамадзкага руху. Калі—не, тады з кім, з якімі сіламі могуць і павінны лучыцца ў сярмягу апранутыя беларускія масы?

Вось гэтае, вельмі паважнае пытаньне давайце і разгледзім.

Калі Пазьняк ці кс. Станкевіч пішуць у „Беларускай Крыніцы“ аб «незалежніцкіх ідэалах» — яны заўсёды стараюцца гэтаю пісанінаю замаскаваць сваю сапраўдную залежнасьць ад розных апякуноў, пачынаючы ад Керанскага, і кончыўшы на Гітлеры сучасных дзён, якога яны вітаюць, хочучы каб прыйшоў на нашы землі і правёў у жыцьцё праграму Беларускіх Хрысьціянскіх Дэмакратаў, выражаючых жаданьні заможніцкіх элемэнтаў беларускага народу.

Ведаюць старыя каналіі, таму заўсюды клічуць апякуноў зацягнутых у мундуры, клічуць гэнэралаў, а ня сам народ на вырашэньне яго лёсу. Такім чынам „незалежніцкія ідэалы“ на справе залежаць ад усіх вышэй акрэсьленых інтарэсаў, ад устасункаваньня беларускіх багацеяў, на чале з хрысьціянскай дэмакратыяй да долі вызыску працоўных масаў, тых масаў, якіх імкненьне да здабыцьця магчымасьці свабоднага разьвіцьця свае нацыянальнае культуры зьвязваюцца з імкненьнем да вызваленьня з-пад эканамічнага вызыску featureнага роду «дабрадзеяў», як чужых, так і сваіх. Гэтыя абедзьвы справы цесна паміж сабою зьвязаны, нават больш таго, яны зьяўляюцца адною справаю, зразумелаю кожнаму сьвядомаму беларусу.

Зразумеўшы вось гэтую жывую сувязь паміж дамаганьнем свабоднага нацыянальнага і культурнага разьвіцьця і дамаганьнем кавалка хлеба ня парабка, а гаспадара ў сваёй хаце,— зразумеўшы гэта зусім ня трудна даць адказ на пытаньне: з кім лучыцца?

Беларускія Хрысьціянскія Дэмакраты, Беларускі Нацыянальны Камітэт, іх правадыры: кс. Станкевіч, пасол Ярэміч, кс. Гадлеўскі па прыкладу УНДО супрацоўнічаюць з кожнаю вялікаю капіталістычнаю дзяржаваю.

Аб шчырам каханьні па між БХД і УНДО усім ведама. Быў час калі беларускія масы ў 1930 г. адмовіліся прызнаць Ярэміча сваім прадстаўніком і ня выбралі яго ў Сойм,—УНДО пасьпешыла з выручкаю, правёўшы Ярэміча ў паслы па сваім сьпіску у ўкраінскім выбарчым вокрузе.

Далей паслы УНДО з вядомым Дмітрам Ляіцкім на чале, прыяжджаюць у Вільню на сьвяткаваньне 15-ці годзьдзя БНР, ладжаннага Бел. Нац. Камітэтам. БХД за ўвесь час свайго існаваньня супрацоўнічае з кіраўнікамі Літоўскага Тымчасовага Камітэту ў Вільні: Сташысам, Краяголісам і доктарам Альсейкай.

Ці гэтае супрацоўніцтва, гэтая лучнасьць зьяўляюцца прыпадковымі? Ясная рэч, што—не. УНДО ёсьць партыя ўкраінскае буржуазіі, клеру, вясковых багацеяў, украінскіх нацыяналістаў, якія заўсёды імкнуліся і цяпер імкнуцца да ізаляваньня ўкраінскіх працоўных мас ад працоўных іншых народаў. Гэта партыя, каторая пакладае надзеі на вайну супроць СССР, партыя ўкраінскага фашызму. Сташысы і Альсейкі зьяўляюцца прадстаўнікамі літоўскіх багацеяў, каторыя паказваюць літоўскім масам, як ідэал—„незалежную“ Літву, дзе турмы перапоўнены працоўным народам, дзе фактычна беларусы і другія нац. меншасьці адчуваюць бязупынны нацыянальны ўціск.

Вось іх твар. БХД, Бел. Нац. Кам., іх правадыры лучацца з імі, і лучацца таму, што на *беларускім грунце*, яны ёсьць прадстаўнікамі такіх самых грамадзкіх групаў, бароняць тыя самыя інтэрэсы, як УНДО на ўкраінскай, а Сташысы на літоўскай ніве.

Таксама ня ёсьць прыпадковасьцю цесная лучнасьць з сваімі апякунамі кіраўнікоў з «Роднага Краю»—Астроўскага і Луцкевіча. Гэта ня толькі *іншы шлях да тых самых мэтаў* каторыя маюць працоўныя беларусы, *але зусім іншы шлях, да зусім іншых мэтаў*, нічога супольнага ня маючых з інтарэсамі беларускага народу, які на пытаньне з кім лучыцца дае свой адказ. Яго мы разгледзім другім разам.

## Што сказау Эрыо?

На працягу некалькіх тыдняў шпальты міжнароднае прэсы запоўнены былі рэвэляцыйнымі справаздачамі з паездкі аднаго з найбольш уплывовых палітыкаў цяперашняе Францыі — Эдварда Эрыо—у Савецкую Краіну. Калі быўшы прэм'ер Францыі ўступаў на савецкую тэрыторыю — усе, затаіўшы дух, чакалі першых слоў гэтага дальназоркага палітыка аб савецкім жыцьці. Зацятыя ворагі СССР настаўлялі вушы і з нецярплівасьцю чакалі на пацьверджаньне іх бязглуздых і да канца аб'ежджаных паведамленьняў аб сталым, нячуваным голадзе савецкага насельніцтва, аб тысячах і мільёнах трупаў, аб людаедзтве, ну, і, што самае галоўнае, аб хуткай канчыне „дыктатуры чэрні“. Прыхільнікі і прыяцелі Савецкага Саюзу чакалі ад Эрыо трэзвага голасу праўды аб сацыялістычным будаўніцтве, аб гіганцкім узросьце матэрыяльна - культурнага дабрабыту народных мас, аб новых формах грамадзкага сужыцьця, аб мірных і брацкіх стасунках народаў СССР да іншых суседніх народаў.

Эдвард Эрыо ехаў у СССР не як афіцыяльны прадстаўнік францускага ўраду, але як асоба прыватная. І таму падарожжа яго мела тым большае значэньне, бо язык Эрыо ня мог быць зьвязаны ніякімі дыплёматычнымі ніткамі. Ён гаварыў ад імя свае асобы, яго думкі і спасьцярогі з'яўляюцца думкамі трэзвага, разумнага палітыка сучаснай Францыі. Ня трэба хіба дадаваць, што думак яго ні ў якім выпадку ня можна западозрыць у пэўнай нават тэндэнцыйнасьці на карысьць савецкай дзяржавы.

Што-ж мы даведваемся з вуснаў Эрыо?

Паводле ўсіх вестак, якія знайшлі сабе мейсца ў прэсе можна сказаць адно, што францускі палітык надзвычайна захоплены дасягненьнямі Сав. Саюзу ў-ва усіх галінах жыцьця. Як-бы ня пенілася замежная расейская белагвардзейшчына, як-бы ня скрыгітала зубамі „Крыніца“ кс. Станкевіча, — словы Эрыо зрабілі вялікае ўражаньне і зацерці значэньне іх ня зможа найбольш галосная зьвяга аб „галоднай сьмерці“ савецкага грамадзянства. Якіх бы спосабаў не хапаліся ў далейшым міжнародныя палітычныя авантурнікі — голас Эрыо зрабіў сваё.

Сяньня, калі пасьля двохтыднёвае падарожжы па краіне Саветаў Эрыо вярнуўся ў Францыю —можам выбраць з прэсы тое найважнейшае, найбольш цікавае, што сказаў ён аб савецкім жыцьці. Мэты свае падарожжы Эрыо скрэсьліў у наступных словах: „Я вельмі рад ізноў адведаць Сав. Саюз“. І зьвяртаючыся да прадстаўнікоў сав. улады, зазначае: „Прашу перадаць працоўным, ад імя каторых вы мяне віталі, што я спадзяюся, што гэтая паездка будзе карыснай справе міру і нашым краінам“. А перад мікрафонам дадаў: „У мамэнт, калі сходжу на землі краіны Саветаў, сьпяшу выказаць удзячнасьць за прыняцьце, якое я спаткаў ад уладаў і насяленьня. Я перакананы ў найлепшай будучыне расейскага народу і спадзяюся, што маё падарожжа будзе карысным, як для яго, так і для справы міру“.

На працягу двох тыдняў Эрыо стараўся пазнаць усе галіны савецкага жыцьця. Ён адведвае дзяржаўныя і грамадзкія інстытуцыі, калгасы і саўгасы, фабрыкі і заводы, ніжэйшыя і вышэйшыя навуковыя ўстановы, выхаваўчыя заклады, стараецца заглянуць у самыя тонкія і найбольш цікавыя зьявы савецкай дзяржавы. І з усяго, што можна было на працягу так кароткага часу ўбачыць—Эрыо выносіць агульнае ўражаньне захапленьня дасягненьнямі савецкай краіны.

«Вы сяньня моцныя—кажа ён на прыняцьці ў маскоўскім гарадзкім Савеце — і маеце шмат прыяцеляў. Калі станеце яшчэ мацнейшымі — будзеце мець іх яшчэ больш. Што тычыцца мяне—то я змагаўся ад самага пачатку за прыязьнь з Саветамі і гарджуся, што не памыляўся ў сваіх надзеях на вашы пасьпехі».

Думку гэтую выказаў Эрыо, як лёгічны вывад пасьля дакладнейшага азнаямленьня 'з савецкай запраўднасьцю, пасьля таго, як на падставе ўласнага дасьведчаньня пераканаўся, што побач з вялікімі труднасьцямі ў будове новага жыцьця масы Сав. Саюзу твораць вялікую справу, падымаючыся з кожным днём на вышэйшую ступень матэрыяльна-культурнага дабрабыту.

«Француская публічная апінія была ашукана перадусім што тычыцца ўбогасьці украінскіх сялян»—сканстатаваў Эрыо пасьля таго, як пабываў на ўкраінскіх вёсках і ў калектывах. „Я адведаў вёску на той Украіне—кажа ён далей—мніма галадуючай. І знайшоў краіну, прыпамінаючую найбольш багатую правінцыю Францыі — Баўцыю. Прыгожа ўтрымліваныя сады, добра аброблены палі, дамы чыстыя, добра збудаваныя, людзі багата убраныя, дзеці прыгожыя і здаровыя“.

Пасьля гэтага Эрыо заяўляе, што наагул па ўсей краіне ён спатыкаў заможнае насельніцтва. «І калі спакойна і безстаронна сачыць за разьвіцьцём СССР, дык можна заўважыць, што ён ідзе да таго, каб стаць такой-жа моцнай краінай, як Злучаныя Штаты».

Перад сваім выездам з Кіява ў Маскву Эрыо заявіў перад журналістамі: „Я захоплены выхаваўчай працай сярод сялян і *пашанаваньнем украінскіх нацыянальных пачуцьцяў*. Апрача таго — Эрыо зьдзіўлены проста тым аўтарытэтам, якім карыстаюцца рабочыя, стоячыя на чале ўлады“.

З браку мейсца ня можам тут прытачыць усяго, што сказаў францускі падарожнік. Таму агранічымся на прывядзеньні яшчэ некалькіх цытатаў, якія характэрызуюць іншыя галіны савецкага жыцьця.

„Я сканстатаваў у СССР ліхаманкавае імкненьне да аўладаньня ведамі: гэта важны мамэнт — ён тлумачыць дасягненьні СССР ў-ва ўсіх галінах, а асабліва ў асьвеце і гаспадарчым разьвіцьці“.

„Пасьля павароту ў Францыю, я раскажу францускім дзецям, якіх прыкладных дзяцей бачыў я ў камуне Дзяржынскага“.

„Слова мір зьяўляецца адным з самых дарагіх і блізкіх паняцьцяў для народных мас СССР“.

Эрыо з звычайным захопленьнем пачаў адклікацца аб вядомых 6-ці варунках Сталіна, у якіх, паводле слоў Эрыо, адбіты дзьве асноўныя рысы Сталіна: — вялікі розум і адвага.

У маскоўскім Савеце, адказваючы на прывітаньні савецкіх прадстаўнікоў, Эрыо заявіў: „Я хачу тут публічна прывітаць рабочых, сялян, усіх працоўных Масквы і народы ўсяго Сав. Саюзу з тымі надзвычайнымі здабычамі, каторыя імі асягнуты“.

У часе праезду праз Латвію ў Францыю, ў Рызе да Эрыо зьвярнуўся супрацоўнік белагвардзейскай „Сегодня“ з запытаньнем, як там у „краіне голаду і сьмерці“?

Супрацоўнік гэты піша: „Эрыо ў захопленьні.—Пацёмкінскія вёскі?—ня ведаю. Тое, што я бачыў у Расеі было надзвычайным, а аб тым чаго ня бачаў, я не магу гаварыць.

— Але голад?—Эрыо пачынае дэнэрвавацца. Гэтае слова чамусьці асабліва хвалюе яго. Ён моцна стукае кулаком па стале і крычыць:

C'est une mensonge pure, pure, pure! (Гэта чысты, чысты, чысты абман). Яго спадарожнікі пацьвярджаюць гэта і расказваюць, што ў СССР людзі адзеты ляпей чым да вайны. Эрыо слухае і, пацьвярджаюча, ківае галавой“.

Прыехаўшы ў Парыж, Эрыо з многазначнай насмешкай заявіў перад журналістамі: „Савецкі Саюз не падобны на краіну, якая знаходзіцца ў кіпцях голаду“.

Так сказаў Эрыо. Словы гэтага найвыдатнейшага прадстаўніка францускай культуры, уплывовага палітычнага дзеяча хай дадуць і нам магчымасьць пазнаць запраўдную запраднасьць бальшавіцкага ладу“.

*П. С—кі.*

# Наш вывад.

Факты—ўпартыя рэчы, кажа нямецкая прыказка і той, хто пойдзе супроць іх, скруціць сабе голаву, хоча ці ня хога, апыніцца ў лягеры ворага, які спрытна пляце павуціну абману, зацягвае ў яе несьвядомых, іх рукамі стараецца зрабіць *сваю* работу.

Ня лаянкаю, сьмехам або безпадстаўнаю сваркаю павінны мы даказаць бязглуздасьць існуючае думкі *аб апалітычнасьці* тае ці іншае каапэратыўнае культурна-асьветнае або грамадзкае арганізацыі. Трэба даказаць і паказаць нашаму беларускаму працоўнаму народу сапраўдныя жаданьні хадэкаў, якія, пад плашчыкам *апалітычнасьці*, прагнуць усялякімі шляхамі, выкарыстоўваючы культурны голад, эканамічны заняпад — апанаваць гушчамі беларускага люду, сілаю каторага хочуць, стараюцца здабыць сабе поўнае права вызыску яго-ж.

Аб такой, а ня іншай „апалітычнасьці“ хадэкі, языком Клімовіча вялі гутарку на адбыўшайся нарадзе каапэратыўных працаўнікоў у Вільні ў пачатку гэтага верасьня. На нарадзе прысутнічала з дзясятак асоб. Сярод іх: *Клімовіч*, *Коўш*, Манкевіч, Паўловіч і *зусім „апалітычны“*, *прадстаўнік з Украіны*, *пасол сойму Луцкі — правадыр буржуазыйна-нацыяналістычнае арганізацыі УНДО*. Гэты апошні прыехаў падзяліцца спрытам свае працы ў галіне адурачваньня украінскіх працоўных масаў з сваімі супрацоўнікамі хадэкамі. Ксёндз Станкевіч афіцыяльна на нарадзе ўдзелу ня прымаў, але яго дух лунаў над усей гэтай імпрэзай, язык Клімовіча гаварыў словамі самога ксяндза.

На самой нарадзе правадыры не раскідваюцца: іх увага—Баранавічы. Прыехаўшым людзям працы, практыкам, нізаваму каапэратыўнаму актыву, лекары Луцкія, Клімовічы і з-за куліс Станкевічы пры сьвяшчэннам удзеле Каўша, старанна прабуюць зрабіць уколы, атруціць прысутных „апалітычнасьцю“ каапэратыўна - хадэцкага органу „Самапомач“ Клімовіч, як украўшы што, дзівіцца то ўгару, то ўніз, а падчас і проста ў вочы, не маргаючы, бяз хварбы на твары, кажа: „Мы... мы *апалітычная* грамадзкая арганізацыя. Мы... мы ні дакога ні належым... Мы самы сабою...“

Каму *пан Клімовіч*, пры дапамозе сваіх супрацоўнікаў, закручвае голаву; каму ён хоча замазаць вочы, перад кім прабуе схаваць *свой хадэцкі твар*. Ці-ж ня відна з практыкі штодзеннага жыцьця плятанічная сувязь паміж „апалітычным“ органам „Самапомач“ і бязумоўна палітычным—„Беларускаю Крыніцаю“. Хіба-ж ня разам гэтыя блізьняцы ссуць адну і тую самую матку ў сутане Станкевіча—узначеленую ім хадэцыю. Хіба-ж ня разам яны віталі і надалей вітаюць Гітлера, яго заборчыя пляны, яго вайну супроць СССР. Можа ня фактам зьяўляецца тое, што кіраўнік адбыўшае нарады Клімовіч у сваёй уласнай пэрсоне ўваходзіць у склад Беларускага Нацыянальнага Камітэту, які, бязумоўна, зьяўляецца камітэтам здрады беларускага народу. А шпальты «Самапомачы» можа адрозьніваюцца чым-небудзь ад «Бел. Кр.», з якіх льлецца бруд на здабыткі ўсходу, дзе кожны радок, кожная літара выкарыстаны на атручваньня мазгоў несьвядомага грамадзянства, на бязстыднае скажэньне сапраўднага стану рэчаў.

Спрытныя артысты усю галерэю жывых фактаў, якія кажуць ня ў іх карысьць хочуць прыкрыць добра вядомаю „*апалітычнасьцю*“. Стары гэта конь. Садзяцца на яго небараку і Луцкевічы і Клімовічы, езьдзяць па вёсках, пішуць, кулакамі бухаюць у грудзі лемянтуюць на цэлае горла: «Мы апалітычныя, мы толькі каапэратары... культурнікі...»

Гэтыя апалітычныя «чудачкі» углездзелі на нарадзе людзей, пачулі іх голас, голас нізавога актыву, які зьвязаны з працоўным беларускім народам, думаючым зусім не па хадэцкаму, і не па-апалітычнаму, а думаючымі патрэбамі дня, нэндзаю, лепшым заўтра. Ня Луцкія з Клімовічамі, а баранавіцкія прадстаўнікі катэгарычна паставілі пытаньне: «Спыніць наклёны ў «Самапомачы» на нашых братоў. Пісаць у ім толькі тое, што мы хочам. Не паслухаеце,—мы з вамі парываем».

Апалітычныя, «Ванькі - Устанькі» ня могуць ня бачыць жывых людзей, ня могуць замкнуць вушы, каб ня чуць голасу шырокіх нізоў беларускага народу. Зьмена настрою мас прымусіла іх на нарадзе даць слова, што яны будуць зьмяшчаць усё напісанае зьнізу, будуць пісаць аб Сав. Беларусі і Саветах аб'ектыўна. «Мы згодны з вамі, нізавікі,—кажуць яны. Згодны, абы застацца ў вас на чале, каб заўтра ў рашаючы момант павясьці вас на арматнае мяса Гітлеру неразлучна з кс. Станкевічам і Луцкім на ўкраінскай глебе. Трэба адзначыць, што з выстаўленых патрабаваньняў да «Самапомачы» можна заключыць аб існаваньні яшчэ вядомых ілюзіяў да гэтага органу, ілюзіяў, што Клімовіч можа на самай справе адмовіцца выконваць абавязак Клімовіча—хадэка, абавязак сябры нацыянальнага камітэту, адмовіцца трымаць сувязь з Луцкімі і яму падобнымі.

Не ў «хаванага» трэба нам граць, а вярнуўшыся да сваіх хатак расказаць нашым братом адкрыта, куды гнуць хадэкі, якую «апалітычнасьць», замазваючы вочы, прапагуе Клімовіч. Расказаць, што для нас каапэратыўны рух не зьяўляецца галоўнаю мэтаю, ён ёсьць адным з сродкаў для разьвіцьця сьвядомасьці працоўнага беларускага народу, для дасягненьня лепшае сацыяльнае і нацыянальнае будучыні. Каапэратыў перадусім павінен быць ня толькі, гандлева-спажывецкай арганізацыяй, а і культурна-асьветным пунктам. Ён павін турбавацца аб задаваленьні культурных патрэбаў яго ўдзельнікаў.

Каапэратывы мусяць ставіць пытаньні аб уласным выдавецтве, аб школах у роднай мове, аб самаадукацыі, аб групаваньні раскінутых самародкаў-пісьменнікаў, карэспандэнтаў, якія-б змаглі даць нам новыя песьні, новыя сцэнічныя творы. Сума гэтых пералічаных фактаў, спраў, жыцьцёвых патрэб надасьць кірунак каапэратыўнаму руху, супрацістаўляючы яго хадэцка-клімовічаўскай, кампаніі, якая шляхам каапэрацыі, не нарушаючы падстаў сучаснага ладу, хоча выйсьці з крызісу.

Зразумеўшы гэта, нізавы каапэратыўны актыў, шырэйшыя гушчы сяброў і сябровак зразумеюць і тое, што хадэк Клімовіч, прыкрываючыся фразамі апалітычнасьці, стаіць абедзьвімі нагамі на той самай дошцы, што і Станкевіч. Разам яны клічуць Гітлера *на ўсе беларускія землі.*

На нарадзе было два лягеры: прадстаўнікі народу—з аднаго боку, хадэцкія правадыры — з другога. Нарада паказала, што глеба пад нагамі хадэкаў звужаецца. Абраны пункт апору Луцкімі, Клімовічамі у Баранавіцкім і сумежніх паветах павінен стаць апорным пунктам супроць хадэкаў.

Такі, а ня іншы вывад мусіць зрабіць кожны на мейсцы. Так, а ня іначай павінны працаваць мы. Працаваць, кладучы цэглы не ў будову хрысьціянскіх дэмакратаў, а ў сваю ўласную.

*Я. Баравізна.*

# Важныя мамэнты.

Будаваньне каапэратываў, іх людзкі склад павінен азначацца агульнаю мэтаю працоўнага грамадзянства, сапраўднымі жаданьнямі яго.

З гэтага ня можа ня быць зразумелым кожнаму перадавіку, нізавому актыву, што сябрамі нашых коопэратываў могуць і мусяць быць перадусім незаможнае селянства, работнікі і сярэднія гаспадаркі, але ў ніякім выпадку ні багацеі.

У працы трэба бачыць, што мы маем дачыненьне з людзьмі зусім адрозьніваючыміся адзін ад аднаго сваім матэрыяльным станам, адкуль выцякая неабходнасьць—коопэратыўны пай не рабіць шабленна адною лічбаю для ўсіх. Ён павінен быць падзелены, прынамсі, на тры групы: для сярэдніх гаспадарак, ніжэй сярэдніх і зусім бедных.

Такі падыход да справы дазволіць нам ахапіць больш шырэйшыя масы працоўнага беларускага народу каапэратыўнаю сеткаю.

Практыка жыцьця, нашы магчымасьці, як грашовыя, так і з боку падбору адпаведных людзей для кіраваньня, настойліва кажуць нам, не раскідвацца, не старацца ахапіць усё адразу, бо з гэтага мала што выйдзе, а справу ў вачу народу можна скампрамітаваць. Таму, па нашай думцы, зусім мэтазгодным зьяўляецца, залажыць адзін коопэратыў на 4—5 вёсак, замацаваць яго. Праз гэты ўжо замацованы пункт утвараць крамы ў суседніх вёсках, вярбуючы там новых сяброў.

Такі прыклад можна прывесьці з Баранавіцкага павету, Ляхавіцкай гміны, дзе ў в. Рачканах у 1931 годзе залажыўся коопэратыў. Зараз ён мае 4 крамы ў суседніх вёсках, фактычна стаўшы каапэратыўным цэнтрам у гэтым пункце.

Пажадана было-б пры кожным такім групуючым коопэратыве, крамах пабудованых ім, утрараць сэкцый, як культуральна-асьветную і санітарную, пры чым уцягваць у іх ня толькі сяброў-пайшчыкаў, але і тое насельніцтва, якое абслугоўваецца імі.

Задачы гэтых сэкцыяў: зразумела першая вядзе культурна-асьветную працу, другая сочыць за добрым захаваньнем тавараў у крамах, за якасьцю іх, абедзьве яны, як і ўсе, перад агульнымі сходамі павінны даваць даклады аб праробленай працы.

Гэта дапаможа нам зрабіць коопэратыўны рух, сапраўдным масавым рухам, зрабіць яго адным з сродкаў для выхаду з сучаснага стану для дасягненьня нашых галоўных сацыяльных і нацыянальных мэтаў.

**Дубок.**

# Будуйма каапэрацыю.

(В. Кракотка, Слонімскага павету). Ужо некалькі гадоў існуе ў нашай вёсцы спажывецкі каапэратыў. Запраўды, пасьля ліквідацыі гуртка Т. Б. Ш., каапэратыўная арганізацыя сталася ў нашай вёсцы пунктам, групуючым навакол сябе лепшыя культурна-асьветныя сілы нашай вёскі. Наш каапэратыў не агранічыўся толькі залажэньнем гандлёвага склепу. Ен, побач з нясеньнем вясковай масе пэўных матэр'яльных палёгкаў — заняўся актыўнай культурна-прасьветнай дзеяльнасьцю. Пры яго дапамозе збудаваны Народны Дом, які ў сяньняшніх варунках зьяўляецца запраўдным гонарам нашай вёскі. Сяляне з суседніх ваколіц прыходзяць часта палюбавацца нашым дасягненьнем і, убачыўшы тое, што мы маем і робім, запальваюцца да нацыянальна-вызваленчай працы. Народны Дом у нас ня пустуе. Мы часта ладзім спэктаклі-вечарыны, каторыя сьцягаюць масы сялянства з суседніх вёсак. Даход з вечарын мы аддаем на пашырэньне й ўзмацненьне культурнай работы. Выпісваем газэты, кніжкі, пасылаем на падтрыманьне беларускіх культурна-асьветных арганізацыяў. Такім чынам паміма труднасьцяў, якія мы перажылі ў пачатку заснаваньня каапэратыву, сяньня арганізацыя наша стаіць на моцных падставах. Дзейная і масавая праца ўсіх членаў каапэратыву ў-ва ўсіх галінах, прадбачаных статутам, зьяўляецца гваранцыяй таго, што мы ня толькі будзем жыць, але і стала разьвівацца, паміма злых наскокаў з боку паасобных маласьвядомых альбо варожых элемэнтаў нашае вёскі. Пажадана было-б, каб з надыходам сёлетняе зімы парупіліся аб закладаньні гурткоў самаадукацыі або вывучэньня беларускай мовы. Таксама неабходна было-б падумаць аб заінсталяваньні ў Нар. Доме агульнага радыя.

*К. Р.*

# Высьвятляйма сутнасьць каапэрацыі.

(Жойджішкі, Вялейскага пав.). Кожная ідэёвая справа, карысная для працоўных масаў, можа толькі тады мець пасьпех, тады толькі пацягне за сабой нізы, калі яна будзе падрабязна і ў зразумелай форме выясьнена для гэтых-жа нізоў.

Я маю тут на ўвазе *спажывецкую* каапэрацыю. Шмат у нас гаворылася і гаварыцца аб каапэрацыі. Два разы нават у м-ку Жойджішкі былі з'арганізаваны спажывецкія каапэратывы: першы раз у 1920 г., другі-ж — у 1923 г. Аднак былі яны недаўгавечныя. Скора збанкрутавалі. Чаму? Бо ў абодвых выпадках арганізатарамі былі ня нізы. Нізы ня былі дапушчаны ў кіраўнічыя органы, а людзі зусім чужыя для працоўнага сялянства, як соцыяльна, так і нацыянальна. І як такія, яны ня мелі і не маглі мець ніякага даверра з боку масаў. Яны арганізавалі спажывецкія каапэратывы з мэтай выкарыстаць іх, як сродак па полёнізацыі беларускагя насельніцтва.

У нашым мястэчку спажывецкая каапэратыва неабходная.

Мы ўжо вельмі часта гутарым і радзімся між сабою, як гэта ў нас залажыць спажывецкую каапэратыву. У нас ёсьць тры прыватныя крамкі, якія добра цьвітуць. Уласьнікі іх нават сабралі не малыя капітальчыкі. Нават пакуплялі ўласныя дамы. Скуль яны ўзялі капіталы на гэта? Гэтыя грошы, здабытыя мазалістымі нашымі рукамі, ўзялі яны ад нас у форме заработкаў за праданы нам тавар. Калі-б мы мелі сваю спажывецкую каапэратыву, дык гэты заработак пашоў-бы на карысьць яе сяброў. Сябры выкарысталі-б яго на пабудову дому пад каапэратыву, народнага дому, на пакупку кніжак для бібліятэкі, радыя і т. п. Такім чынам, гэты заработак пашоў-бы на карысьць агульную, культурна асьветную.

Гр. К. Чартовіч, ідучы на сустрэчу жаданьню сялянства, прачытаў рэфэрат на тэму: „Спажывец і каапэрацыя“ ў наступных вёсках Жойдзішнай гміны: 16. VII г. г. у Паніжанях, 6. VIII г. г. у Ядроўцах, 15. VIII г. г. у Фасоле. Яшчэ меў магчымасьць прачытаць гэты рэфэрат 13. VIII г. г. у в. Сачынятах і 20. VIII г. г. у в. Няхведы, бо дазвол ён атрымаў ад Старосты на адчытаньне гэтага рэфэрату загадзя адзін і на падставе гэтага дазволу мог чытаць лекцы ў успомненых вёсках. Аднак у гэтых вёсках рэфэрат ня быў прачытаны па віне самога грам. К. Чартовіча.

Агулам, што можна сказаць аб прачытаным рэфэраце дык гэта тое, што слухачоў было шмат, у залежнасьці ад вялічыні вёскі і што зацікаўленасьць, ім з боку сялянства была вялікая. На рэфэратах адбываліся вельмі жывыя дыскусыі і на розныя тэмы. Неабходна, каб падобныя рэфэраты былі прачытаны К. Ч. і па другіх вёсках. Я думаю, што цяпер пара ўжо прыступіць да залажэньня бел. спажывецкай каапэратывы ў м-ку Жойдзішкі.

*Прысутны.*

# З апошняе хвілі.

**Напружаньне паміж Саветамі і Нямеччынай.**

У зьвязку з недапушчэньнем гітлероўскімі ўладамі карэспандэнтаў савецкіх газэт на працэс аб падпале Рэйхстагу і прыймаючы пад увагу тое, што карэспандэнты гэтыя падлягалі і падлягаюць сталым рэпрэсіям з боку нямецкай паліцыі і штурмавікоў — савецкі ўрад пастанавіў адклікаць усіх сваіх прэсавых прадстаўнікоў з Нямеччыны, выдаючы адначасна загад карэспандэнтам нямецкае прэсы апусьціць граніцы СССР у працягу 3-х дзён. Крокі гэтыя выклікалі вымену натаў паміж абодвымі ўрадамі. Савецкі ўрад стаіць нязьменна на ўтрыманьні свае дэцызіі.

## Я пралетар.

Я пралетар—мільёнаў ня шукаю,
Мне не патрэбны божы дар...
Забралі ўсё... бяры—нічога больш ня маю—
Я—пралетар!

Сьмяюся сонцу я, у душы яго сьвятлом
Распалены агні... цалуй вятрыска твар!
Я вольны як і ты—мне гора ніпачом —
Я—пралетар!

Хай бура праляціць, з карэньмі рве дубы,
Хай бье пярун з пад чорных хмар...
Плюю на усё—ён супроць мне—слабы
Я—пралетар!

Ці разумееш ты ў значэньні тым ўсясьветным
Хто ёсьць жыцьця сталёвага ўладар?
— Мізэрны, бедны я—гаржуся імем гэтым;
Я—пралетар!

У грозны час жыцьця, калі сьмяротны гром
Спрабуе—ч'іх грудзей сільнейшы моцы гарт...
Ня ўздрогне ледзь адзін прад бурай, прад віхром:
— Пралетар!

Ахвяру прынясу табе мазольна праца,
Юнацкіх сіл пахоп складу на твой аўтар—
Збудую для цябе з красы, з агню палацы
Я!!!—пралетар!

*М. Васілёк.*

## Перад рампай.

Разчыніла куфар, поўны чыстае адзежы. Кожын сьцяжок, кожная вышыўка — праца ўласных рук. Прала. Ткала. Бяліла. Складала... Стала перад куфрам на калені, як перад аўтаром. Думкі пабеглі гэнь, гэнь далека ў прошласьць. На экране ўспамінаў бачыла сваю моладасьць — праца і хлопаты ў здабыцьці штодзеннага хлеба. Пахмурная моладасьць. Шчасьце ня ўсьміхалася. Інстынктыўна чакалася чагосьці надзвычайнага — амаль цуду. Дзеці расьлі, а яна ўсё чакала. Цяпер сын студэнт, дачка гімназістка. Колькі гонару. Яна — маці вучоных дзяцей. Яе дзяцей шануюць паны. Здаецца дачакалася цуду.

На дварэ непагода, а ў яе на сэрцы так сьветла, так цёпла грэе вясеньняе сонца. Увосень жыцьця цьвіце вясна — гэта цуд.

— Мамачка, убярыся ў тую кашулю, што ты калісьці вышывала, як была дзяўчына — весела шчабеча гімназістка, вешаючы на сабе пацеркі і ўстужкі—Нацыянальны касьцюм.

Маці як-бы праснулася. Парваўся ланцуг успамінаў. Хацела пярэчыць дачцы. Ей, старой — дзявоцкая кашуля. Але дачка ня ўступіла.

Вышываная кашуля, найпрыгажэйшая саматканная спадніца. Глянула ў люстра і яе бяззубы рот усьміхнуўся маладою ўсьмешкай. Убралася, як на парад.

* * *

Саля новага тэатру асьвечана разьвешанымі газавымі лямпамі. Лёгкі вецер урываецца праз расчыненае вакно і ціха шуршыць развешанымі пад стольлю папяровымі ўстужкамі. Поўна людзей. Радамі сядзяць, гледзячы на палотнішча заслоны. У першым раду стаяць крэслы.

— Гэта для паноў — кажа яна.

Але ізноў уступіла дачцы. Села ў крэсла на самой сярэдзіне першага раду. Яе кашуля зіхаціць чырвонымі вышыўкамі. Глядзіць проста на заслону, ня сьмеючы зірнуць у бок, адкуль б'е запах штучнага арамату. Поруч шуршыць шоўк. Вялізны капялюш закрывае сьвет мутнае лямпы. Ад капялюша нясе духамі — ад яе пахам шырокіх палёў.

Струнны аркестр зайграў штосьці блізкае, знаёмае, што пранікае да глыбіні сэрца. Іграюць свае хлапцы. Скончылі. Пачула званок. Лямпачкі на салі прыгасьлі. Няведамая рука расьцягнула заслону на дзьве паловы. Пабачыла ў нутро хаты, простае сялянскае хаты. На салі цішыня. Нахіліўшыся ўперад слухала, хватала словы актара, блізкія, родныя словы, што такою прыгожай музыкай ліліся з-за рампы на цесную залю. І пачула, зразумела, што гэтыя словы былі яе родныя, для яе яны біскучымі пералівамі ляцелі ў прастор ціхае ночы, для шмат такіх, як яна, былі бальзамам, гоячым усе раны штодзённых клопатаў, смуткаў шэрага жыцьця, поўнага тугі і суму.

Прэч сум, прэч гора і нужда! Яна сядзіць, горда падняўшы галаву, сьмела пранізваючы ўзрокам чужы, ненавісны, чорны капялюш. Не, яна нічога ня бачыць. Яна ляціць думкамі па-над нізенькімі хаткамі з гнілымі, саломеннымі стрэхамі і нясе ў іх пацеху роднага слова, тае мовы, што так міла гучыць у вуснах блізкага актара.

Цуд. Дачакалася цуду. — Чорныя капялюшы б'юць брава гукам роднага слова.

Няма цуду—ёсьць закон канечнасьці, патрэбы. Чакай, будзе...

Але будучыня не яе. Яна цешыцца сучаснасьцю. Яна слухае сваё роднае слова... Так, роднае слова...

*Рытма.*

28. 8. 1933 г. Вільня.

## Ці помніш ты?

Ці помніш ты, як у лясочку
Сядзелі мы ўдваіх з табой?
Прыгожай, цёплай, летняй ночкай,
Ці помніш ты час мілы той?
Цудоўны месяц плыў па небе,
А мы сядзелі ў цені дрэў;
Мне шчасьця больш было ня трэба,
У грудзях маіх агонь гарэў.
Цянёк быў мілы нам з табою,
Што ткалі ў лесе дрэў лісты,
Травіца зьвільжана расою;
Час мілы той, ці помніш ты?
Ці помніш ты ўсе тыя словы,
Што з вуснаў выплылі тваіх?
Казала ты кахаць гатова,...
Мне не забыць ніколі іх.
Табе у вочы як у зоры
Глядзеў з надзеяй я такой,
Што ты пацешыш мяне ў горы.
Ці помніш ты час мілы той?
Размова ціхая між намі
Плыла у даль дзесь праз кусты,
Мяне паіла ты славамі,
Час мілы той, ці помніш ты?
Ды ўсё прайшло, усё мінула,
Агонь ня паліць больш грудзей;
Усё, што было ў грудзях заснула,
А час сабе, ідзе ідзе...

Чэрвень 1933 г. *У-р. Шчыры.*

**„Літэр. Старонка“ павінна стацца сьцягам паэтаў працы Заходняй Беларусі! Пішыце ў яе і шліце матэрыяльную запамогу!**

## „Мы не сагнём сьпіны перад сілай“.

Прыход да ўлады гітлер'яды ў Нямеччыне і імкненьне разьюшанай рэакцыі да здушэньня ўсіх паступовых ідэяў у нямецкім народзе змусіла ўвесь чэсны сьвет навукі пакінуць межы дзяржавы Гітлера, каб не апынуцца ў канцлягерах або не завіснуць на шыбеніцы свастыкі. Сяньня ўсе шчырыя сілы навукі, сілы, якія маюць адвагу ня схіліць свайго карку перад дзікім вандалізмам, ператварыўшым перадавую культурную краіну ў краіну пылаючых кастроў, лягераў і шыбеніцаў— кляймяць гітлероўскую работу, заклікаючы ўвесь сьвет да барацьбы з варварствам XX-веку.

Вядомы нямецкі пісьменнік-драматург Эрнст Толлер безпартыйны радыкал, які знаходзіцца пасьля гітлероўскага пераварату за граніцай, нядаўна апублікаваў адкрытае пісьмо да міністра прапаганды Гэббэльса, аднаго з галоўных паплечнікаў Гітлера.

„Калі — піша Толлер — 10-га мая творы нямецкіх пісьменнікаў, філёзофаў і навучных дасьледчыкаў былі кінуты ў касьцёр, вы, п. Гэббэльс, баранілі і віталі гэтыя варварскія ўчынкі і ў сваёй прамове называлі спаленыя творы людзей, якія прадстаўлялі больш шляхотную Нямеччыну, чым вы, „духоўнымі адкідамі“. Вы выкінулі з нямецкіх тэатраў, выдавецтваў, кніжных магазынаў, бібліятэкаў і школаў нашы творы. Вы перасьледуеце аўтараў, замыкаеце іх у вастрогі або выганяеце з краіны. Вы выгналі з нямецкіх унівэрсытэтаў лепшых настаўнікаў, з тэатраў—лепшых акцёраў, з іх варштатаў—мастакоў, архітэктараў, скульптараў, з канцэртных заляў—дырыжораў і кампазытараў. Вам мала глуміцца над тымі, каторых вы пазамыкалі ў свае вастрогі і канцлягеры, вы рознымі сродкамі, якія маюцца ў вашай уладзе перасьледуеце нават эмігрантаў.

Вы хочаце іх, выражаючыся вашай мовай, ні спыняючыся ні перад чым духова і фізычна па варварскі зьнішчыць.

У чым прычыны гэтай неагранічанай ненавісьці? Гэтыя людзі вераць у сьвет свабоды, чалавечнасьці, сацыяльнай справядлівасьці; гэтыя людзі—запраўдныя сацыялісты, камуністы, пацыфісты або веруючыя хрысьціяне. Яны ня хочуць заглушыць у сабе голасу праўды, ня хочуць сагнуць сьпіну перад сілай. Перасьледаваньні і зьдзекі зьяўляюцца для нас, перасьледуемых, вялікім гонарам. Многія з нас толькі цяпер павінны будуць даказаць, што яны варты яго. Мы ня плачам і ня просім літасьці, мы не даём падпіскі ў лёяльнасьці. Мы ніколі не перастанем называць сваім імем вашы агідныя ўчынкі.

Вы цьвердзіце, што нібы ратуеце нямецкую культуру, але разбурваеце яе найбольш шляхотную работу. Вы цьвердзіце, што нібы абуджаеце нямецкую моладзь, але асьляпляеце яе дух, яе вочы, яе пачуцьці. Вы цьвердзіце, што нібы ратуеце нямецкіх дзяцей, але атручваеце іх сэрцы бязсорамнымі фразамі тупога нацыяналізму і расавай ненавісьці. Вы цьвердзіце, што нібы вызваляеце працоўных, але закоўваеце іх у ланцугі сацыяльнага і духовага нявольніцтва“. Пісьмо сваё Толлер канчае так:

„Вы так шмат гаворыце аб героізьме, але разумееце героізм салдата. Мы таксама ведаем геройства—працы, характару, ня згінаючагася чалавека, каторы верны сваім ідэям.

Вы так шмат гутарыце аб трусасьці сваіх праціўнікоў, але мы абяцаем вам, што вашы перасьледаваньні зробяць нас цьвярдымі; ваша ненавісьць зробіць нас больш сьпелымі, ваша барацьба ўзмоцніць нашу баяздольнасьць.

Мы не свабодны ад віны за свой лёс, мы зрабілі шмат памылак, з якіх самай вялікай была наша мягкасьць і доўгацярпеньне. Дзякуючы лекцыі, каторую вы нам далі, мы пераможам свае памылкі. І гэта—ваша заслуга“.

Так паступовыя слаі грамадзтва кляймяць гітлероўскую ўладу. А беларуская хрысьціянская дэмакрацыя на чале з кс. Станкевічам бачыць у Гітлеры „ратаўніна“ беларускага народу.

*Ю. Дубік.*

*Кастусь Баравы.*

## Падаткі.

(Працяг).

### Падаткі цяпер і перад вайной.

Як было ўжо сказана ва ўступе,*) мы маем магчымасьць больш дакладна разгледзець толькі безпасярэднія дзяржаўныя падаткі. Аднак у глёбальных (агульных) лічбах можна даць пэўнае прадстаўленьне і аб іншых падатках, аб самастойных падатках вялікшых гарадоў ЗБ і аб падатках павятовых камунальных саюзаў, гмін і гарадоў, пры тым параўняць некаторыя гэтыя падаткі з перадваеннымі, што асабліва для нас важна. Такім чынам, мы зможам даведацца колькі прыблізна падаткаў (апроч пасярэдніх) плаціць у адзін нейкі год Зах. Беларусь.

На падставе ўрадавых даных мы маглі навочна пераканацца, што даходнасьць гаспадаркі ЗБ, як у агульнай суме, так і ў паасобных яе важнейшых галінах бязупынна падае, або пачала падаць. Ня тое з падаткамі. Яны растуць і можа дзеля таго й растуць, што даходы падаюць і гаспадарчае жыцьцё замірае.

Цяперашнія падаткі выдатна перавышаюць перадваенныя. Пры тым растуць яны з году у год. Аб гэтым можам пераканацца з наступных даных аб безпасярэдніх дзяржаўных падатках:

Агульная сума безпасярэдніх падаткаў для ЗБ выносіла:

ў 1913 г. (*перад вайной*)—20,752,000 зл.
„ 1926-27 (*пасьля вайны*)—44,788,000 „
„ 1927-28 — — — — —54,838,000 „
„ 1928-29 — — — — —62,823,000 „
„ 1929-30 — — — — —65,613,000 „
„ 1930-31 — — — — —59,719,000 „

Калі мы ў папярэднім разьдзеле казалі, што таблічку аб спадку даходаў *варта* завучыць на памяць — то тут мусім сказаць, што таблічку аб падатках проста *неабходна* зазубрыць. Трэба каб і малы ведаў, што ў параўнаньні з перадваенным часам падаткі ў 1926|27 гаспадарчым годзе падвоіліся, а ў наступных гадох нават патроіліся. У працэнтным выражэньні будзем мець такі малюнак. Калі, напрыклад, плаціў

у 1913 годзе 100 зл.
то ў 1926-27 „ мусіў плаціць 216 „
а „ 1927-28 „ „ „ 264 „
„ 1928-29 „ „ „ 303 „
„ 1929-30 „ „ „ 311 „
і толькі 1930-31 „ маюць спадак 288 „

Камэнтарыяў да гэтых лічбаў ня трэба. Яны кажуць самі за сябе. Ня іншы, але той самы малюнак прадстаўляюць і падаткі ў гарадох ЗБ.

Падатковыя зборы ў Вільні, Беластоку і Берасьці.

| Назоў гораду | 1913 г. | 1927-28 | 1928-29 | 1929-30 |
|---|---|---|---|---|
| Вільня . . . . | 2,674,000 | 4,652,000 | 5,830,000 | 6,104,000 |
| Беласток . . . | 822,000 | 2,181,000 | 2,626,000 | 2,771,000 |
| Берасьць . . . | 452,000*) | 578,000 | 864,000 | 992,000 |

Падаткі ў гарадох падвоіліся, або і патроіліся, пры тым з году ў год растуць.

Застаецца нам яшчэ глянуць на справу падаткаў камунальных, павятовых саюзаў, гмін і гарадоў. Даныя тут аднак найбольш няпоўныя, ўсё-ж такі на падставе іх можам пераканацца, што падаткі гэтыя вялікія і яны растуць. Аб гэтым гавораць наступныя лічбы, праўда для двух, толькі ваяводзтваў.

Агульная сума кам. падаткаў, пав. кам. саюзаў і гарадоў:

| Ваяводзтвы | 1928-29 г. | 1929-30 г. | % |
|---|---|---|---|
| Віленскае . . | 13.902.000 | 14.029.000 | 0,9 |
| Навагрaдзкае | 8.739.000 | 9.244.000 | 0,1 |

Як бачым, нават пачаўшыся крызіс ня спыніў рост камунальных падаткаў.

Капаючыся ў гэтых мільёнах, чытач напэўна хаце-бы ведаць, колькі ўсяго хоць у адным годзе уплыло ў скарбовую касу грошай з Зах. Беларусі. Пастараемся задаволіць у гэтым нашага

*) Глядзі № 4 „Б. Г.“

*) 1910 г.

# Віленская хроніка.

*„Райніца“.* Гэтымі днямі ў Вільні заснавана спажывецкая каапэратыва п. н. „Райніца“. На агульным сходзе ў каапэратыву запісалася 17 асоб. У склад нагляднай рады ўходзяць між іншым: А. Клімовіч, Малецкі, Шкелёнак, Найдзюк і т. д. Гэта ўжо гаворыць аб характары ўспомненай „Райніцы“ бо ўсе пералічаныя асобы зьяўляюцца або хадэкамі або сьвядомымі ці несьвядомымі падхадэчнікамі.

*Безрабоцьце.* На тэрэне Віленшчыны сяньня знаходзіцца 6754 безработных, у гэтай лічбе 2175 кабет. Найбольшы лік з іх—гэта безработныя невыкваліфікаваныя. У параўнаньні з папярэднім тыднем безрабоцьце зьменшылася нязначна.

*Сала для СССР.* Нядаўна з Віленшчыны адасланы транспорт сала ў Савецкі Саюз.

# Апошнія навіны.

## Польшча

### Падаткі ў натуры.

Міністэрства Скарбу разаслала да ўсіх падатковых урадаў інструкцыю ў справе прыйманьня падаткаў у натуры на сплату розных залеглых падаткаў і ўдзелу ў коштах мэлёрацыйных работаў.

### Енджэевіч у Данцыгу.

На запросіны данцыгскіх уладаў туды езьдзіла экскурсія польскіх журналістаў. На чале яе стаяў прэм'ер мічістраў—Енджэевіч. Падарожжа гэтае і яе прабег сьведчыць аб далейшым збліжэньні паміж Польшчаю і Данцыгам, якое наступіла пасьля прыходу гітлероўскае ўлады ў Вольным Горадзе.

### Сялянскія забурэньні ў Кракаўшчыне.

У зьвязку з сельска-гаспадарчай забастоўкай дня 25 г. м. у Новым Таргу адбыліся сялянскія забурэньні. П. А. Т. падае, што ў успомненай мяйсцовасьці адбываўся нелегальны мітынг, скліканы Сялянскай Партыяй, на які прыбыло каля 1000 асоб з ваколічных вёсак. Сабраныя, падыйшоўшы да староства, дамагаліся звальненьня арыштаваных. Калі староста заявіў, што арыштаваныя могуць быць звольнены толькі пасьля паразуменьня з пракурорам, натаўп пачаў кідаць у староства каменьнямі, намагаючыся выламаць браму. Пры гэтым адбыліся сутычкі з паліцыяй, у рэзультаце каторых 1 асоба забіта і 17 ранена, з якіх 13 паліцыянтаў.

### Працес забойцаў Т. Голувкі.

Дня 20 верасьня г. г. у Самборы распачаўся працэс трох асоб: А. Бунія, М. Матыкі і Р. Бараноўскага, якія абвінавачваюцца ў забойстве ў жніўні 1931 году Т. Голувкі.

Працэс прадоўжыцца некалькі тыдняў і выклікае агульнае зацікаўленьне.

## Заграніца

### Ратыфікацыя ўсходняга трактату.

Так званы усходні тракгат, заключаны нядаўна паміж СССР, Польшчаю і іншымі ўсходнімі дзяржавамі—ратыфікаваны. Ратыфікацыі даканалі СССР і Польшча. А у трактаце зазначана, што калі два сыгнатары (удзельнікі) яго ратыфікуюць, дык ён абавязвае ўжо і іншых.

### Ня дрэмлюць...

Як вядома пасьля прыходу да ўлады Гітлера—Нямеччына пачала з нячуваным тэмпам ператварацца ў агульную фабрыку збраеньняў. Факт гэты выклікаў зразумелае занепакаеньне ў суседніх дзяржавах. Гэтымі днямі адбываліся ў Парыжы нарады прадстаўнікоў Англіі, Францыі, Амэрыкі і Італіі ў справе тайных нямецкіх збраеньняў. Падставаю нарадаў паслужылі тайныя францускія дакумэнты аб нямецкіх збраеньнях.

### Блёк фашыстоўскіх дзяржаў.

Газэты паведамляюць, што паміж урадамі Аўстрыі, Нямеччыны і Італіі вядуцца тайныя перагаворы пад кіраўніцтвам Мусаліняга ў справе стварэньня блёку трох фашыстоўскіх дзяржаў: Аўстрыі, Нямеччыны і Італіі. Гэта мае наступіць пасьля перамены дзяржаўнага ладу ў Аўстрыі на адкрыта фашыстоўскі.

### Дэмаскаваньне гітлероўскай правакацыі.

Дня 20 верасьня г. г. у Лёндане закончыўся працэс у справе падпалу Рэйхстагу, наладжаны міжнародным камітэтам барацьбы з нямецкім фашызмам.

На працэсе гэтым прымалі ўдзел выдатнейшыя юрысты сьвету і былі праслуханы ў характары сьведкаў найбольш кампэтэнтныя ў гэтай справе асобы.

Пасьля некалькідзённых нарадаў камісія юрыстаў апублікавала наступныя вывады: 1. Ван дэр Люббэ ня толькі не зьяўляецца членым камун. партыі, але зьяўляецца яе ворагам. 2. Камуністычная партыя ня мае ніякіх адносін да пажару Рэйхстагу. 3. Торглер, Дмітраў, Танеў і Папоў ня толькі не вінаваты, але ані проста, ані пабочна ня маюць нічога агульнага з пажарам Рэйхстагу. 4. Дакуманты, паказаньні сьведкаў, і ўвесь матэрял, які знаходзіцца ў распараджэньні камісіі паказваюць на тое, што Ван дэр Люббэ ня мог сам даканаць праступку. 5. Дасьледаваньне ўсіх уходаў у Рэйхстаг і выхадаў з яго робіць праўдападобным, што падпальшчыкі выкарысталі падземны ход, які вядзе з Рэйхстагу ў кватэру прэзыдэнта Рэйхстагу. 6. Сам факт падпалу ў гэты час Рэйхстагу быў на руку нац.-сацыялістычнай партыі. 7. Камісія ўстанаўляе, што маюцца паважныя даныя лічыць, што Рэйхстаг быў падпалены кіраўнічымі асобамі ў нац.-сацыялістычнай партыі альбо па іх даручэньні“.

### Паляць і нішчаць.

Паводле падліку Бразыльскага міністэрства землеробства ў гэтым годзе будзе собрана да 30.000.000 мяшкоў кавы.

1.928.000 мяшкоў разойдзецца ў сваей краіне, 16.000.000 намераваюцца вывесьці за мяжу, рэшта,—больш 12.000.000 мяшкоў прымушаны зьнішчыць, палячы і кідаючы ў мора. Ужо зараз прыступілі да выкананьня вызначанага пляну зьнішчэньня. Гэта робіцца не таму, што людзі на ўсім сьвеце ня ў стане спажыць 12.000.000 мяшкоў кавы. Далека не! А таму, што капіталісты, зьнішчаючы яе, хочуць утрымаць высокія цэны на тую колькасьць, якая пушчана ў прадажу.

У Амэрыцы з мэтаю ўтрыманьня дарагавізны плянтатары павінны зьнішчыць 25-50% сабранае бавоўны.

# Ці ведаеш, што:

× *У Злучаных Штатах,* у адказ на ўвядзеньне ўрадам новага закону аб працы, распачаўся масавы забастовачны рух. Каля 200 тысяч рабочых, пад кіраўніцтвам рэволюцыйных профсаюзаў пакінула працу, дамагаючыся палепшаньня варункаў працы і платы. На гэтым грунце часта даходзіць да сутычак паміж паліцыяй і бастуючымі.

× *Саветы* аб'явілі пяцігодку абарудаваньня дарогаў у СССР. Праектуецца пабудаваць дарогаў першай катэгорыі на 20 тысяч кілёмэтраў, другой і трэцяй—на 100 тысяч кілёмэтраў. Пабудавана будзе 100 мастоў.

× *На Кубе,* як падаюць газэты, узмоцніла сваю актыўнасьць камуністычная партыя. Паўстаньні народных мас адбываюцца пад яе кіраўніцтвам. Камуністычная партыя мае замер зарганізаваць агульную забастоўку супроць буржуазыйнага ўраду.

× *Польскі міністар* замежных спраў Я. Бэк, у пачатку дваццатых чіслаў гэтага месяца адведаў Францыю. З праграмы яго пабыту, з прабегу прыняцьця і з прамоў відаць, што паездка Я. Бэка зьяўлялася маніфэстацыяй традыцыйнай дружбы, існуючай паміж абедзьвымі дзяржавамі.

× *Гандлёвае прадстаўніцтва* СССР у Польшчы атрымала ад цэнтральных уладаў паўнамоцтвы распачаць перагаворы аб закупках на польскіх мэталюргічных заводах вялікіх транспартаў мэталюргічных вырабаў (у некалькі сот тысяч тон). Перагаворы з дырэкцыямі паасобных фабрык ужо распачаліся.

× *Газэты даносяць,* што ў зьвязку з узмацненьнем камуністычнай дзеяльнасьці ў Кітаі ўрад Чан-Кай Шэка пастанавіў выдаць распараджэньне, на аснове якога ўсе кітайскія грамадзяне, каторыя будуць улічаны ў прыналежнасьці да кампартыі будуць спальвацца жывымі на кастрах.

× У канцы прошлага месяца ў Кітаі, у паўночнай частцы правінцыі Сычуан адбылося моцнае землятрасеньне, якое ахапіла зону у 160 кілёмэтраў. Згінула 5.000 асоб.

× У *шмат якіх мясцовасьцях* на Кубе, рабочыя ў працэсе забастовачнай барацьбы арганізуюць саветы рабочых дэпутатаў.

× *Міністар унутраных спраў* у Нямеччыне Гэрынг на мітынгу заявіў, што ў выпадку калі Нямеччыне будзе адмоўлена роўнае права ў галіне ўзбраеньня, яна адвернецца сьпіною да ўсіх міжнародных канфэрэнцыяў.

× *Японская паветраная флёта* на днях бомбардавала кітайскі горад Калган. Акцыя адбывалася на працягу гадзіны. Шмат забітых і раненых. Так выглядае „мірная“ палітыка японскага імпэрыялізму.

× У *Францыі* выбухла паноўная забастоўка водных рабочых. Бастуючыя дамагаюцца праўдзеньня ў жыцьцё ўсіх трэбуемых імі пастулятаў, а такжа звальненьня з вастрогу арыштаваных у часе першае забастоўкі 16 рабочых.

× *Аргентына,* на падставе пастановы краёвага сэнату, выходзіць з Лігі Нацыяў.

× У *Баўгарыі* засуджаны на кару сьмерці 16 афіцэраў, якія абвінавачваліся ў прыналежнасьці да камуністычнай партыі.

× *Пасьля сканчэньня* падарожжы Эрыо ў Маскву выляцеў францускі міністар авіацыі Кот, які мае зазнаёміцца з савецкімі дасягненьнямі ў галіне паветранай флёты. Прэса ацэньвае гэтую паездку, як далейшы крок у савецка-францускім збліжэньні,

× *Японска-савецкі трактат* аб неагрэсіі мае быць заключаны ў хуткім часе. Аб гэтым падае замежная прэса, ацэньваючы гэтыя пагалоскі, як сымптом паражкі правакацыйнай палітыкі японскай ваеншчыны да Савецкага Саюзу.

× *Арышты камуністаў* у Японіі адбыліся ў зьвязку з іх падгатоўкай да выезду на антываенную канфэрэнцыю ў Шанхай. Арыштована дзесяць асоб.

× *„Саюз прыяцеляў СССР“* зьліквідаваны ў Аўстрыі, якая ідзе па сьлядох гітлерызму. Будынкі саюзу заняты паліцыяй.

× *Штодзенна новыя* і новыя арышты камуністаў адбываюцца ў Нямеччыне. Аб разьмерах гітлероўскага тэрору можа сьведчыць хаця-ж бы тое, што ў адзін дзень—15 верасьня арыштована 800 асоб, якія абвінавачваюцца ў антыдзяржаўнай дзеяльнасьці.

× *У Базэлі* выйшла т. зв. «брунатная кніга», выданая «Міжнародным камітэтам абароны ахвяр нямецкага фашызму». У гэтай кнізе на 12 старонках зьмешчаны сьпісак забітых, прапаўшых бяз вестак і застрэляных пры «спробе ўцякаць» нацыянал-сацыялістамі.

× *Нязвычайнае ажыўленьне* дзеяльнасьці нямецкіх камуністаў распачалося ў зьвязку з працэсам аб падпале рэйхстагу. У галоўнах асяродках Нямеччыны, а перадусім у самым Ліпску і ў рурскім басэйне адбываюцца дэманстрацыі пратэсту, раскідаюцца адозвы, заклікаючыя да абароны Торглера і Тэльмана, выбухаюць забастоўкі. Газэты зьвяртаюць увагу, што дзеяльнасьць гэтая ўзмацняецца як раз у часе нячуванага завастрэньня рэпрэсіяў з боку гітлероўцаў у адносінах да камуністаў.

× *У Злучаных Штатах* адбываюцца масавыя дэманстрацыі пратэсту супроць працэсу над «падпальшчыкамі» рэйхстагу, з дамаганьнямі звальненьня Торглера і баўгарскіх камуністаў. Пад лёзунгам: „Прэч нац-сацыялістычны рэжым“ дзесяткі тысяч народу ў Нью-Іорку, Чыкаго, Філядэльфіі і іншых вялікшых асяродках, а таксама ў Канадзе дэманстравалі перад нямецкімі консулятамі.

× *Кітайскія камуністы* ў правінцыі Хонан захапілі горад Луі ў свае рукі.

× *Партовыя рабочыя* Данккірхена і Брэста (Францыя) адмовіліся разгружаць параходы, якія прыбылі туды пад гітлероўскімі сьцягамі.

× *Саветы* дастаўляюць у Польшчу мільён кілёграмаў яблык.

× *Забастовочны рух* і рух галодных на Кубе прадаўжаецца. Рабочыя захопліваюць у свае рукі фабрыкі і друкарні.

× *Япона-кітайская* вайна ізноў распачалася. Кітайскія войскі пад кіраўніцтвам ген. Чанг-Фу занялі горад Фуай-Фу, які знаходзіцца ў т. зв. дэмілітарызаванай зоне.

× *Вядомыя крупаўскія заводы* ваенных прыпасаў апошнімі часамі пачалі працаваць поўным ходам. Чакайце міру!

× *Ангельскі лятун* у зьвязку з сапсуцьцём самалёту сьпусьціўся на парашуце з вышыні 3600 мэтраў. 2100 мэтраў ляцеў ён, як камень, не распускаючы парашута.

× *Дня 15 верасьня* г. г. каля Берасьці тры асобы напала на пачтовы амбулянс, які ехаў у кірунку станцыі Картуз-Бяроза. Пачтальён забіты. Фурмана сьцягнулі з возу і пакінулі. Забрана каля 2000 злотых і мяшкі з лістамі.

## Адказы рэдакцыі.

*Таму, што бачыў.* Пішыце выразьней і на больш цікавыя тэмы.

*У-р. Каравай.* Адзін з Вашых вершаў зьмяшчаем. Рэшта, нават з папраўкамі, да друку не надаюцца. Радзім Вам больш чытаць прыгожай беларускай літэратуры.

*Сымону Н.* „БХД“—г. зн. Беларуская Хрысьціянская Дэмократыя. Партыя, выражаючая інтарэсы і ідэолёгію беларускіх багачоў, а перадусім т. зв. вясковага кулацтва. Аднак для таго, каб абаперціся на шырэйшых масах беларускага народу яна паслугоўваецца такімі лёзунгамі, якія адпавядаюць інтарэсам нізовай гушчы. І гэтым яна маскуе свой твар. Для таго, каб зразумець сутнасьць яе, трэба глядзець ня толькі на словы, а ў першую чаргу на дзеяльнасьць. А ўся праца хадэкаў скіравана супроць праўдзівага адраджэньня нашага народу.

*Т. Рамэйко.* Ліст атрымалі. Выкарыстаць ня можам. Пішыце карацей і аб іншых справах. Газэта высылаецца.

*Знаёмы.* Атрымалі. Пойдзе ў наступныя нумары.

*Сялянам з в. Гусакі.* Дзякуем. Выкарыстаем. Пішыце больш.

*Аўтару „Кляшчы“.* Надасланае да друку не надаецца. Працуйце больш над сабою і над сваімі творамі.

**Лёс „Бел. Газэты“ залежыць толькі ад падтрыманьня масаў.**

Рэдактар-выдавец: інж. А. Карповіч.

Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая 22